


Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

30 мая 2014 года №22 (996)

**На месцы спаленай Любчы – склад гною**
Чытач "РГ" абвінавачвае ў гэтым вілейскае сельгаспрадпрыемства "Стайкі"
старонка 2

**У жудаснай аварыі загінуў мужчына**
28 мая сутыкнуліся машыны "Сітраэн", мікрааўтобус "Мерседэс" і грузавы аўтамабіль МАЗ
старонка 4

"Круглы стол": ці трэба музычная адукацыя?
с. 20

Шасцігадовыя дзеці расказваюць пра самавары
с. 6

"Маладзечна-2013" перамагло па пенальці
с. 22

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Будуюць другі энергаблок БелАЭС

**АСТРАВЕЦ.** Цяпер ідуць работы па ўзвядзенні падмурка будынка другога блока, паведамляе БелТА. Пра гэта распавёў намеснік гендырэктара па капітальным будаўніцтве БелАЭС **Андрэй Баркун**. Паралельна з другім энергаблокам будуюць першы, а таксама аб'екты жыллёвай інфраструктуры для работнікаў БелАЭС.

### Забілі 400-ы гол

**СМАРГОНЬ.** Чатырохсоты гол на рахунку футбольнага клуба "Смаргонь" за ўсю гісторыю выступлення ў першай лізе чэмпіянату Беларусі па футболе. Гістарычны гол у матчы з "Іслаччу" забіў **Мікалай Рындзюк**. Пасля гэтага "Смаргонь" атрымала яшчэ адну перамогу – трэцяю запар. Дома 25 мая смаргонцы перамаглі 3:1 "Смалявічы-СТГ". У гаспадароў у першым тайме вызначыліся **Сямёнаў** і Рындзюк, а напрыканцы сустрэчы гол забіў **Мархель**.

### Ажыў замак у Гальшанах

**АШМЯНЫ.** Прайшоў пяты фестываль сярэднявечнай культуры "Гальшанскі замак". Ля сцен замка госці пабачылі спектакль "Соф'я Гальшанская". Коннагістарычны клуб "Залатая шпора" паказаў тэатралізацыю – перад гледачамі разгарнуліся падзеі часоў Полацкага княства, ВКЛ, Рэчы Паспалітай, 1812 года. Абяцаных забегі шыпячых таракана таксама адбыліся. Было і шмат іншага. Надвор'е выдалася дажджлівым, але яно не стала перашкодай святу.

**Аддзел інфармацыі.**



# У цэнтральнай бібліятэцы абрынулася столь



Фота 112.by.

Столь абрынулася ў чытальнай зале Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкі імя Багдановіча. Гэты пакой не выкарыстоўваўся, чакаў рамонту.

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося ў 4 гадзіны раніцы 27 мая. Ніхто не пацярпеў.**

У будынку ў гэты час знаходзіўся толькі ахоўнік. Ён быў у іншым крыле на першым паверсе.

Паведамленне пра тое, што ў Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэцы па вуліцы Талстога абрынулася столь, паступіла ў службу выратавання ад дырэктаркі гарадской бібліятэкі **Наталлі Івашынкі**.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавяла прэс-сакратар Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

Абрынулася апорная бэлька і перакрыцце на плошчы каля 150 квадратных метраў на другім паверсе. Памяшканне, дзе гэта адбылося, памерам 12х20 м. Раней яно служыла чытальнай залай. Аднак цяпер рыхтавалася да рамонту і не выкарыстоўвалася.

### У залу маглі заходзіць людзі

– Дзякуй богу, ніхто не пацярпеў, – тлумачыць Наталля Івашынка. – Мы збіраліся ў гэтай зале рабіць рамонт, фарбаваць падлогу і сцены. Павыносілі амаль усю мэблю. Частка стаяла ў фае, яшчэ частку перанесці не паспелі.

**– У каментарах на сайце чытачка напісала, што туды пускалі людзей і колькі дзён таму там нават хтосьці быў.**

– Зала не выкарыстоўвалася. Толькі перад ёй у малой зале працавалі людзі. Там жа ніхто не займаўся. Хаця я дапускаю, што, калі чалавек вельмі прасіў там пазаймацца, яго маглі пусціць папрацаваць з літаратурай. Вы ж бачылі на фота, што сталы былі састаўленыя, іх проста не паспелі вынесці.

Калі запрацуе бібліятэка, ці бяспечна працаваць у яе астатніх залах, будзе вызначаць камісія. Пакуль што ўстанаўліваецца прычына, чаму столь абрынулася.

Дарэчы, пабудавалі бібліятэку ў 1960 годзе.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**




Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

Чытач “РГ” абвінавачвае вілейскае сельгаспрадпрыемства “Стайкі” ў тым, што яно побач са спаленай вёскай Любча зрабіла склад гною.

ЯКІЯ МЫ ЁСЦЬ

# На месцы спаленай Любчы – склад гною

**ВІЛЕЙКА. Пасля таго, як ліст чытача “РГ” Алеся Раткевіча накіравалі ў Вілейскую раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, гной пачалі прыбіраць.**

У лісце спадар Алесь, у прыватнасці, згадвае публікацыю “Варварская высечка лесу”, дзе аўтар допісу расказваў аб бязладдзі з боку Вілейскага доследнага лясгаса побач з мемарыялам “Боркі”. На гэтым месцы 4 мая 1943 года акупанты спалілі жывымі дзясяткі мірных жыхароў.

– Што змянілася ў дзейнасці лясгаса за гэты час? – задаецца пытаннем наш чытач. І адказвае:

– Нічога.

Аляксандр Раткевіч абвінавачвае мясцовае сельгаспрадпрыемства “Стайкі” ў тым, што яно недалёка ад Борак, побач з яшчэ адной спаленай вёскай “Любча”, зрабіла склад гною. Прытым, што навокал сотні гектараў зямлі, аграрыі вырашылі скідваць гной ля самага святога месца.

### Гной пачалі прыбіраць

Поўны ліст звароту ў рэдакцыю мы пераслалі ў Вілейскую раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У сераду на прыгаданым месцы пабываў начальнік інспекцыі **Аляксандр Альшэўскі**. І патлумачыў:

– Сапраўды, бурт арганічных угнаенняў у сельскагаспадарчым прадпрыемстве “Стайкі” размясцілі хоць і на сваіх землях, але не падумаўшы – побач з шыльдай мемарыяла “Любча”. Патлумачылі ў гаспадарцы, што вывозілі гной не свае механізатары, а адной з вілейскіх арганізацый – таму так і выйшла.

Але сёння (у сераду – рэд.) ужо прыступілі да вывазу арганікі з гэтага месца. Бачыў, што працавалі пагрузчык “Амкадор” і два МАЗы. Абяцалі, што гной убяруць адсюль аператыўна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АДУКАЦЫЯ

## “Тры метры над узроўнем семак”

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэцця заняткі “Мовы Нанова” ў Маладзечне былі прысвечаныя тэме “Горад”.**

Удзельнікам горад адкрыўся з самых нечаканых бакоў.

Аказваецца, у Маладзечне ёсць месца, якое знаходзіцца на тры метры над узроўнем семак. Менавіта ў такіх фарбах апісалі гарадскі стадыён слухачы “Мовы Нанова”.

А ў самім горадзе жывуць маладзечанцы, якія, каб папіць каву, выходзяць на гаўбец (балкон). І свежую прэсу чытаюць у альтанцы.

Напрыканцы сустрэчы дудар **Сяргей Ярук** выканаў на акарыне, дудзе і жалейцы “Саўку ды Грышку”. І разам з залай перанёс нас з амаль спякотнага горада ў лес, дзе птушкі, дождж і вецер.

У чэрвені “Мова Нанова” сыходзіць у адпачынак. Заняткі пачнуцца ад пачатку верасня.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРСЫ

## “Вілейская хваля”: інтрыга засталася

**ВІЛЕЙКА. Чацверты адкрыты раённы фестываль аўтарскай песні і паэзіі “Вілейская хваля-2014” прайшоў на мінулым тыдні. Вынікі яго стануць вядомыя на пачатку ліпеня.**

Сёлета мерапрыемства прымеркавалі да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Першы этап фестывалю – паэтычны конкурс – прайшоў 20 мая ў раённай цэнтральнай бібліятэцы. У ім прымалі ўдзел 24 аўтары: пачынаючы ад юных (маладзейшаму было 13 год) і да ўмудроных досведам (82 гады).

А 22 мая ў зале прафесійна-тэхнічнага каледжа адбыўся конкурс аўтарскай песні. Узялі ў ім удзел 18 выканаўцаў. Выступалі не толькі выканаўцы сваіх песень, але і тыя, хто спяваў песні іншых аўтараў.

– Вельмі прыемна, што ўдзельнікі сур’ёзна рыхтаваліся да фестывалю. Аўтарскую песню прадставілі разнапланава і ў розных жанрах, – кажа дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч**. – Арганізатары хацелі, каб гэта быў у першую чаргу не конкурс – хто лепшы, а сапраўднае свята – свята паэзіі, свята песні. Лічу, што гэта атрымалася.

У конкурсе аўтарскай песні ўдзельнічалі людзі рознага ўзросту, прадстаўнікі розных прадпрыемстваў і арганізацый: раённай бальніцы, райгазу, завода “Зеніт”, хлебазавода, гімназій, каледжа. Дадам, што ўдзельнікі фестывалю былі не толькі з Вілейкі, але і раёна.

Інтрыга фестывалю захоўваецца: імёны пераможцаў пакуль не назвалі. Яны стануць вядомыя 2 ліпеня, на свяце вуліцы Савецкай. Там пройдзе літаратурна-музычны марафон, які так і называецца – “Вілейская хваля”. А завершыц-

ЭКАЛОГІЯ

## Замежнікі знаёміліся з экалагічным планам

**ВІЛЕЙКА. На Вілейшчыне працягваюць рэалізоўваць ініцыятыву “Падтрымка ўстойлівасці планавання экалагічных мерапрыемстваў у населеных пунктах Беларусі і Малдовы”.**

У межах яе 15 мая ў Вілейку прыехалі прадстаўнік шведскага агенцтва міжнароднага супрацоўніцтва і развіцця SIDA, прадстаўнікі рэгіянальнага экалагічнага цэнтра для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з Сербіі, нацыянальны каардынатар па рэалізацыі экалагічнага комплексу мерапрыемстваў кампанента праграмы STREAM.

Яны сустрэліся з прадстаўнікамі каардынацыйнага Савета і працоўнай групы па распрацоўцы мясцовага экалагічнага плана дзеянняў Вілейскага раёна.

Разам удзельнічалі ў пасяджэнні, дзе абмеркавалі этапы стварэння гэтага плана. Госці ацанілі, што праца вядзецца на высокім узроўні. Таксама абмеркавалі выбраныя для вырашэння праблемы.

Вілейскі раён стаў адным з трох раёнаў у рэспубліцы, якія наведала дэлегацыя, паведаміў каардынатар па стварэнні мясцовага экалагічнага плана дзеянняў па Вілейскім раёне **Сяргей Ганчар**. Усяго ў рэалізацыі гэтай ініцыятывы ў Беларусі ўдзельнічаюць дзесяць раёнаў.

**Аддзел інфармацыі.**

● КОНКУРСЫ

# Трапіла ў лік лепшых кандытараў Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. Навучэнка Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа Анастасія Фядотава стала трэцяй у рэспубліканскім конкурсе прафесійнага майстэрства "Першы чэмпіянат WorldSkillsBelarus–2014".**

Праходзіў ён ад 20 да 22 мая ў Мінску ў футбольным манежы. Удзел узялі больш за 150 юнакоў і дзяўчат, якія атрымліваюць прафесійна-тэхнічную, сярэднюю спецыяльную, вышэйшую адукацыю, а таксама маладыя рабочыя і спецыялісты.

Ацэньвалі удзельнікаў спаборніцтваў больш за 60 экспертаў.

Мінскую вобласць у "кандытарскіх мастацтвах" прадстаўляла навучэнка Маладзечанскага політэхнічнага каледжа Наста Фядотава. Канкуравалі з ёй яшчэ шэсць кандытараў, якія прадстаўлялі астатнія вобласці краіны і Мінск.

У конкурсным заданні было дзве часткі: падрыхтоўка пціфур (асарці з розных маленькіх піроржных) і кампазіцыі з кандытарскага цеста на тэму "Вясна".

Наста падрыхтавала кампазіцыю з трох розных відаў пціфур "Вясновае абуджэнне" і мастацкую кампазіцыю на тэму "Самая шчаслівая вясна", прысвечаную 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Кампазіцыю, прыгатаваную з цукровай масцікі, выканала яблыневымі кветкамі і пунсовымі макамі, якія цяжка было адрозніць ад сапраўднага вясновага букета.

Наста заваявала трэцяе прызавое месца, саступіўшы канкурсантам з Гомеля (2 месца) і Магілёва (1 месца).

**Жанна ТАЛЬКОЎСКАЯ, выкладчыца, дапамагала ў падрыхтоўцы да конкурсу.**

**Даведка "РГ". WorldSkillsInternational** – міжнародная асацыяцыя, якая імкнецца павысіць статус і ўзровень стандартаў прафесійнай падрыхтоўкі, папулярызаваць рабочыя прафесіі праз правядзенне міжнародных спаборніцтваў па ўсім свеце. Сёлета ў студзені да руху далучылася Беларусь.




Фота забяспечана Жаннай ТАЛЬКОЎСКАЙ.

**Навучэнка Маладзечанскага політэхнічнага каледжа Анастасія Фядотава стала трэцяй у кандытарскім конкурсе.**

● ЭКСПЕДЫЦЫІ

## Зноў праплывуць "Шляхам Тышкевіча"

**ВІЛЕЙКА. Экспедыцыя па Віліі "Шляхам Тышкевіча-2014" пройдзе ад 3 па 16 ліпеня. Стартуе яна з Вілейкі.**

Гэта ўжо восьмая падобная экспедыцыя. Летась у ёй удзельнічала каля 60-ці чалавек. Прайшла яна па маршруце "Вілейка-Быстрыца" (гэта вёска ля мяжы з Літвой).

– Сёлета ёсць жаданне даплыць да Вільні, – кажа кіраўнік экспедыцыі **Міхаіл Петух**. – Плануем, што па Беларусі вандроўка зойме 9-10 дзён, а астатнія дні – па Літве). Той з удзельнікаў, хто мяркуе даплыць да Вільні, мусіць сам паклапаціцца пра візу.

На працягу экспедыцыі запланаваныя экскурсіі па цікавых месцах, сустрэчы з бардамі, наведванне музеяў.

– План руху падрыхтуем пасля таго, як стане вядома колькасць удзельнікаў і склад экспедыцыі, – дадае Міхаіл Петух. – Бо калі больш моладзі будзе, то ім адно цікава, а больш сталым людзям – іншае.

Таксама мяркуюць правесці даследаванні складу і якасці рачной вады і вады ў крыніцах па берагах.

Далучыцца да экспедыцыі могуць усе ахвотныя, на любым участку. Для ўдзелу неабходна зарэгістравацца. Інфармацыю наконт экспедыцыі можна атрымаць у Міхаіла Петуха: маб. тэл. +375 29 9610603, электронная скрыня mpetuh@yandex.ru.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Першая экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча" прайшла ў 2007 годзе. Яе прымеркавалі да 150-годдзя вядомага падарожжа па Віліі краязнаўца графа Канстанціна Тышкевіча. Вандроўнікі прайшлі па слядах экспедыцыі графа Тышкевіча ад вытокаў Віліі да зліцця з Нёманам. Арганізатарамі і ўдзельнікамі сталі літоўскія і беларускія навукоўцы, краязнаўцы і турысты.

● СЛУЖБА 101

## Пройдзе абласная акцыя выратавальнікаў

**ВІЛЕЙКА.** Абласная прафілактычная акцыя "Не пакідайце дзяцей адных!" пройдзе ў горадзе 1 чэрвеня. Прымеркавана яна да Міжнароднага дня абароны дзяцей.

Адкрыецца мерапрыемства святочным канцэртам, які пачнецца ў 11 гадзін у Палацы культуры.

Далей падзеі акцыі адбудуцца ў гарадскім парку. Тут дзеці і дарослыя змогуць навучыцца вязаць выратавальны вузел, карыстацца вогнетушыцелем, правільна дзейнічаць у выпадку пажару, паведаміў інспектар групы прапаганды і навучання аддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш.**

Таксама змогуць паўдзельнічаць у шматлікіх конкурсах, віктарыне "Бяспечныя канікулы", пазнаёміцца з магчымасцямі пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі, наведаць некалькі тэматычных гульнявых пляцовак.

На заканчэнне свята чакаецца водная феерыя.

## Гарэў дом у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** Пасля трох гадзін раніцы 24 мая выратавальнікам паступіла паведамленне, што гарыць дом у 3-м Лугавым завулку ў Вілейцы.

– Па прыбыцці выратавальнікаў на месца здарэння, драўляны дом гарэў у сярэдзіне, людзей у ім не было, – расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук.**

У выніку пажару дом выгараў з сярэдзіны, знішчаны дах. Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

Як аказалася, мужчына прачнуўся ад таго, што запякло ў галаву. Убачыў, што гарыць ужо побач з ім.

Пайшоў па ваду, каб затушыць – але помпа не працавала. Выйшаў з дому, аднак выратавальнікам адразу не патэлефанаваў. Іх выклікалі суседзі.

**Аддзел інфармацыі.**

| Курсы валют НБ РБ | 22.05 руб. | 29.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 040,00 | **10 080,00** |
| Еўра | 13 770,00 | **13 730,00** |
| Злоты | 3 287,81 | **3 296,16** |
| Літ | 3 987,05 | **3 976,72** |
| Расійскі рубель | 291,00 | **293,00** |
| Грыўня | 834,93 | **849,38** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13730/13810 | **13710/13790** |
| Долар ЗША | 10030/10070 | **10070/10130** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.05 Цана руб. | 28.05 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **116900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 58050 | **50500** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 27900 | **31300** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 95000 | **95000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28000 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 34800 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102500 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10500 | **13500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **12000** |
| **Алей "Масловія"** | 14500 | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 8000 | **8000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 12500 | **11000** |
| **Капуста**, 1 кг | 14000 | **14900** |
| **Морква**, 1 кг | 6900 | **8000** |
| **Буракі**, 1 кг | 9500 | **8000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 29500 | **29900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 23900 | **23900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 26500 | **26500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 17500 | **19500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 18900 | **8900** |
| **Перац**, 1 кг | 37900 | **39900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 25500 | **25900** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **15800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10500 | **10900** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 24900 | **23800** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **50000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **85000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Уключайце фары

**МАЛАДЗЕЧНА. За чатыры месяцы ў Беларусі ў аварыях загінулі дзесяць дзяцей. Яшчэ 108 атрымалі траўмы.**

У сувязі з заканчэннем навучальнага года і пачаткам летніх канікулаў Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці ад 26 мая да 6 чэрвеня ладзіць комплекснае мерапрыемства "Увага – дзеці!"

Арганізоўваюць яго дзеля прафілактыкі дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

Пераканаўча просім кіроўцаў рухацца ў светлы час сутак з уключаным на машыне бліжнім святлом фар. Быць вельмі ўважлівымі і асцярожнымі.

30 мая Дзяржаўтаінспекцыя таксама праводзіць адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам "На дарозе дзеці – мы за іх у адказе!"

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

# Лось выскачыў на дарогу, пад машыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта ўжо другі выпадак за месяц, калі лось трапляе пад колы машыны на трасе Маладзечна – Нарач.**


Фота nn.lu.

На трасе Маладзечна – Нарач лось трапляе пад колы не ўпершыню. Найчасцей здараецца гэта на ўчастку дарогі ад пераезда паміж раёнамі да Даманова.

Здарэнне адбылося на 85-м кіламетры дарогі ў нядзелю вечарам 25 мая. За рулём "Фіят-Пунта" быў 21-гадовы хлопец, паведаміў "РГ" начальнік вілейскай Дзяржаўтаінспекцыі **Аляксей Альфер**.

У машыне былі яшчэ дзве дзяўчыны, яго аднагодкі. Адна сядзела спераду, другая – ззаду. Усе – маладзечанцы.

Як распавёў кіроўца, яму насустрач рухалася машына. Праз 10 метраў пасля таго, як яны размінуліся, хлопец убачыў лася. Хлопец пачаў тармазіць, але адлегласць была занадта малая. І лось стукнуўся ў машыну.

Аўтамабіль з'ехаў у кювет. Капот, дах, кузаў аўтамабіля пашкоджаныя.

Дзяўчына, якая сядзела побач з кіроўцам, атрымала траўмы. Яе адвезлі ў Вілейскую цэнтральную раённую бальніцу. Кіроўца і другая пасажырка не пацярпелі.

Лось збег.

– Я праязджаў побач з месцам здарэння каля 22 гадзін вечара, – каментуе відавочца **Аляксандр**. – Убачыў наперадзе аварыйныя сігналы аўтамабіля. Машын па пяць стаяла з кожнага боку дарогі. Адна была разбітая. Чырвонага колеру. Удар прыйшоўся зверху.

Я спачатку падумаў, што машына перакулілася. У кювеце пацярпелым давалі нюхаць нашатыр. Я спытаўся ў нейкага чалавека, ці ўсе жывыя. Той адказаў, што так, але ў іх шок. Запытаўся, што здарылася. Ён адказаў: "Лось". І я ўбачыў яго галаву, якая была відаць з кювета. Крыху пачакаў. Маёй дапамогі не спатрэбілася, і я паехаў. Спецыяльныя машыны тады яшчэ не прыехалі.

### Кіроўца мусіць быць напагатове

Аляксей Альфер заўважыў, што летам такія выпадкі здараюцца досыць часта:

– Аднак бываюць і зімой, калі жывёлам няма чаго есці. На дарозе "Маладзечна – Нарач" гэта не першы выпадак. Таму там ёсць адпаведныя знакі. Найчасцей здараецца гэта на ўчастку дарогі ад пераезда паміж раёнамі да Даманова. Каб такой сітуацыі не здарылася з вамі, варта быць вельмі ўважлівым, калі праязджаеце лес. Калі ён і з аднаго боку дарогі, і з другога. Кіроўца не можа ведаць, што там. І ён павінны быць напагатове.

**Настасся РОЎДА.**


Фота 112.by.

Кіроўца "Сітраэна" загінуў у аварыі ля Мясаты.

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У жудаснай аварыі загінуў мужчына

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 мая каля 14.30 адбылася аварыя, у якой сутыкнуліся легкавы "Сітраэн", мікрааўтобус "Мерседэс" і грузавы аўтамабіль МАЗ.**

Здарэнне адбылося на аўтадарозе Маладзечна-Мінск, паміж вёскамі Загорскае і Мясата. Службу "101" выклікалі каля 14.30, паведамляе Мінскае абласное ўпраўленне МНС.

У выніку сутыкнення грузавога аўтамабіля МАЗ і легкавога аўтамабіля "Сітраэн С5" загінуў кіроўца легкавога аўтамабіля. Яму было 52 гады.

Кіроўца грузавога аўтамабіля не пацярпеў.

### З неафіцыйных крыніц

"РГ" стала вядома, што легкавы аўтамабіль ехаў з Маладзечна ў крайняй правай паласе.

Раптам ён стаў рэзка забіраць налева. Па сустрэчнай паласе рухаўся мікрааўтобус "Мерседэс". "Сітраэн" зачапіў яго, выбіўшы ў "Мерседэса" пярэдняе кола.

Пасля першага сутыкнення аўтамабіль цалкам згубіў кіраванне. Яго пачало круціць па ўсёй дарозе.

За "Мерседэсам" па фатальных абставінах рухаўся МАЗ. Легкавушка проста пад'ехала яму пад колы.

**Наталля ТУР.**

● КАРУПЦЫЯ

## Былога дырэктара вілейскага "Райгазу" ўзялі пад варту

**ВІЛЕЙКА. Пракуратура Мінскай вобласці санкцыянавала заключэнне пад варту былога дырэктара вілейскага раённага філіяла "Мінскаблгазу".**

Яго абвінавачваюць у тым, што, з'яўляючыся службовай асобай, у 2009-2011 гадах, без адпаведнага афармлення і аплаты ў працоўны час, прыцягваў падначаленых работнікаў і выкарыстоўваў тэхніку прадпрыемства для будаўніча-мантажных і рамонтных работ на аб'ектах нерухомасці.

Гэтыя аб'екты належалі самому кіраўніку, яго блізкім сваякам і іншым асобам. У выніку прадпрыемству былі нанесены страты ў буйным памеры.

Пра гэта паведаміў БелаПАН намеснік пракурора вобласці **Аляксандр Бяліцкі**.

Былому кіраўніку прадпрыемства прад'яўленае абвінавачанне па адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэкса.

**Паводле БелаПАН.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Сеў п'яны за руль – 80 мільёнаў штрафу

**ВАЛОЖЫН. За паўторнае кіраванне аўтамабілем ў нецвярозым стане асудзілі валожынца.**

Першы раз за язду ў нецвярозым стане 31-гадовага валожынца затрымалі яшчэ ў 2012 годзе. Тады яго пазбавілі вадзіцельскага пасведчання на чатыры гады.

У студзені 2014 года ён жа, зноў п'яны, стаў прычынай дарожна-транспартнага здарэння.

Па рашэнні суда, вінаваты ў ДТЗ бліжэйшыя 2 гады і 7 месяцаў правядзе ў выпраўленчай установе агульнага тыпу.

– Акрамя таго, атрымаў штраф на 80 мільёнаў рублёў і пазбавіўся ўласнага аўтамабіля, які, вядома, у яго канфіскавалі, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Сяргей Лапцік**.

**Наталля ТУР.**

● БРАКАНЬЕРСТВА

## Лавілі рыбу сеткай і сеткавым экранам

**ВІЛЕЙКА.** Сёлета 3 мая склалі адміністрацыйныя пратаколы на 26-гадовага жыхара вёскі Мільча на Вілейшчыне і 31-гадовага маладзечанца.

Першы на рацэ Бярэзіна, што паблізу вёскі Літва, у перыяд забароны лоўлі ўсіх відаў рыб, здабываў яе пад'ёмнай сеткай. Гэта забароненая прылада рыбалоўства. Сетку канфіскавалі.

Другі, маладзечанец, там жа на адлегласці 30 метраў ад берагавой лініі знаходзіўся з забароненай прыладай рыбалоўства – сеткавым экранам. Яго даўжыня – 1,3 метра, вышыня – 80 сантыметраў. Сеткавы экран канфіскавалі.

## Гандляваў рыбай, не маючы дакументаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёлета 3 мая за незаконны гандаль на 37-гадовага маладзечанца склалі адміністрацыйны пратакол.

Побач з уваходам на рынак райспажыўтаварыства ён прадаваў свежую азёрна-рачную рыбу, карася сярэбранага, агульнай вагой тры кілаграмы.

Пры гэтым ён не меў суправаджальных дакументаў, якія б пацвярджалі якасць і бяспечнасць тавару, які не мае вызначанага тэрміну захоўвання альбо прыдатнасці.

**Па інфармацыі Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**



Хор хлопчыкаў Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў гадуе галасістых "пеўняў".

ЮБІЛЕІ

# "Пеўнікі" адсвяткавалі першы юбілей

**МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечанскай дзіцячай школе мастацтваў хор хлопчыкаў "Пеўнікі" адсвяткаваў 10-гадовы юбілей. Кіруе ім Вольга Бялько.**

Гэты канцэрт уліўся ў чараду святочных мерапрыемстваў, прысвечаных 65-гадоваму юбілею Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў.

На сцэну адзін за адным выходзяць харысты. Іх больш за 30. Ад сямігадовых хлопчыкаў да ўжо высокіх падлеткаў гадоў 13. Яны ўсе ў аднолькавых касцюмах, белых кашулях і гальштуках-бабачках. Прыгожыя і ўрачыстыя.

– Вялікі энтузіяст і прапагандыст харавой музыкі Вольга Бялько стварыла ансамбль хлопчыкаў у снежні 2003 года, – распавядае вядучая канцэрта **Людміла Раінчыкава**. – Як з блакітнай рачулкі пачынаецца рака, так і хор пачаўся з ансамбля. За час існавання калектыву дзясяткі хлопчыкаў ад сямі год адкрылі для сябе і сваіх слухачоў чароўны свет музыкі. Яны займаліся харавымі спевамі, сальфеджыа, ігрой на фартэпіяна, баяне, саксафоне, трубе. А ўжо вясной 2004 года "Пеўнікі" заявілі пра сябе на конкурсе "Вясновы праменьчык". І атрымалі першую ўзнагароду.

У рэпертуары калектыву творы розных жанраў – ад народных да акадэмічных.

У харавым мастацтве вялікая роля кіраўніка калектыву. Поспех залежыць і ад яго прафесіяналізму, таленту. Вольга Бялько надта любіць сваю працу. У яе безліч ідэй, планаў.

Адна з самых яскравых старонак калектыву – гэта канцэртная дзейнасць. Мала якія мерапрыемствы ў горадзе абыходзяцца без хору хлопчыкаў. У іх выступленнях – дынамізм, пазітыўная энергетыка.

## На сустрэчу прыйшлі і былыя "Пеўнікі"

На вечарыну прыйшлі і выпускнікі, тыя хлопчыкі, якія стаялі ля вытокаў стварэння хору "Пеўнікі".

Вельмі пранікнёна **Вадзім Васільеў** выканаў песню Паўліяшвілі "Памолімся за бацькоў". А некалі звонкі голас саліста **Лёшы Сакалоўскага** цяпер загучаў прыемным барытонам ў песні "Калі ты са мной". Вальс Шапэна бліскуча выканаў **Ваня Кабыльчанка**.

– Магчымасць тварыць – вялікі дар Бога, – зазначыў дырэктар Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў **Уладзімір Яцыновіч**. – Калектыў унікальны, рэдкі, са шчаслівым лёсам і смелымі творчымі планамі.

**Ларыса БАШКОВА,**
**выкладчыца музычнатэарэтычных дысцыплін.**

СВЯТЫ

# У "Маладзіку" падарожнічалі па краіне творчасці і захапленняў

**МАЛАДЗЕЧНА. Выніковы канцэрт "Вясёлка талентаў" прайшоў у цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" у суботу, 24 мая.**

Наведаўшы яго, можна было яшчэ раз пераканацца, што дзяцінства – найлепшы час. Дзеці дарылі шчырыя ўсмешкі, дабро і творчае натхненне.

Юныя спевакі, танцоры, тэатралы, а таксама іх педагогі і бацькі адправіліся ў падарожжа па вясёлкавых дарогах краіны творчасці і захапленняў.

Навучэнец эстраднай студыі "Эпізод" **Аляксей Дзятлік** прапанаваў адправіцца ў шлях на "Бібіку", менавіта так называецца яго песня. Дзеці і дарослыя зазірнулі на "Атлантыду" падчас выступлення клуба аўтарскай песні "Свечка", загадалі "Тры жаданні" разам з выканаўцай **Насцяй Жыгалкоўскай.** І нават сустрэліся з Пэпі-Доўгая Панчоха, пра якую спявала **Дар'я Паўкалас**.

Усё вакол напоўнілася яркімі фарбамі таленту. Порцыю пазітыву і добрага настрою падарылі ўсім "мышанята" з танцавальнага гуртка "Карусель". А завадныя і няўрымслівыя шасцігодкі на 200 працэнтаў апраўдалі назву свайго танца "Вечны рухавік". Запомнілася і песня "Лялька" ў выкананні самай маленькай артысткі, шасцігадовай **Ані Філістовіч**.

## Газеце "Маладзіка" споўнілася 10 гадоў

На свяце адзначалі пераможцаў раённых конкурсаў і фестываляў. Сярод іх і **Валерыю Барабанаву**, навучэнку вакальнага гуртка "Званочкі". У конкурсе "Зоркі Маладзечна" яе адзначылі дыпломам за лепшае выкананне беларускай народнай песні. І ў яе сапраўды звонкі гарэзны голас.

У гэты ж дзень віншавалі з 10-гадовым юбілеем газеты "Маладзік" і юных журналістаў. На выніковым канцэрце ім уручылі дыплом фестывалю школьнай прэсы "Пунсовыя ветразі".

Усе ўдзельнікі свята "Вясёлка талентаў" атрымалі дыпломы і падарункі, а бацькі лепшых навучэнцаў – падзякі.

Дзеці прыходзяць у цэнтр творчасці "Маладзік", каб выбраць сваю яскравую дарогу і скласці сваю вясёлкавую гісторыю. І пакуль будзе свяціць над намі сонца, гісторыям гэтым не будзе канца. Таму што ёсць і заўсёды будуць побач з дзецьмі настаўнікі, гатовыя верыць у сонечнасць і адоранасць дзяцей, гатовыя падаць ім руку дапамогі і навучыць галоўным чалавечым каштоўнасцям.

**Юлія СТРЫГА,**
**навучэнка гуртка "Школа журналістыкі".**

● ВЫХАВАННЕ

# Шасцігадовыя дзеці расказваюць пра самавары

**МАЛАДЗЕЧНА. Музей самавараў і гарбаты, лыжак, транспартных сродкаў, шашак, кніжак. Зусім неабавязкова ездзіць па ўсім свеце, каб на свае вочы пабачыць гэтыя музеі. Дастаткова на адзін дзень зазірнуць у дзіцячы садок №2 у Чысці.**

– Такая прага да музейнай справы зусім не выпадковая і ўзнікла не стыхійна, – распавядае намесніца загадчыцы дзіцячага садка па асноўнай дзейнасці **Ала Багданава.** – У мінулым годзе мы пачалі распрацоўваць праект па культурным выхаванні дзяцей. І вырашылі, што самай лепшай формай работы якраз і будзе музейная справа. Так дзеці і з культурай розных краін пазнаёмяцца, і даведаюцца шмат новага пра нейкія рэчы.

Больш за тое, дзеці і іх бацькі дапамагаюць у стварэнні экспазіцыі нашых музейных пакояў, папаўненні калекцый. Напрыклад, экспазіцыю кніжак-мініяцюр стваралі самі бацькі. Яны такія кніжкі прыдумвалі, што я ніколі да такога не дадумалася б!

І сапраўды, кніжкі ў музеі вельмі розныя. І зробленыя пад старажытныя, і кніжкі-трансформеры, і кніжкі з тканіны.

– А вось паглядзіце на гэту... Кніжка з казкамі, дзе побач з тэкстам, раздрукаваным на прынтары, бацькі захавалі і заламінавалі малюначкі свайго дзіцяці да гэтай казкі. Уявіце, калі захаваць гэтую кніжачку, якім цудоўным успамінам яна будзе. Праз 10-20 год паглядзяць тую прынцэсу, караля і ката ў ботах, намаляваных ручкай 4-гадовага дзіцяці.

Музейныя пакоі ў садку абнаўляюцца рэгулярна.

– Да зімовай алімпіяды ў нас дзейнічала выстава, прысвечаная зімовым відам спорту, – далучаецца да размовы выкладчыца фізкультуры **Вольга Катлярэнка**. – Былі ў нас і канькі, і старажытныя санкі, і самаробныя. Цяпер дзейнічае музей шашак. Тут і шашкі-банцікі, і шашкі-грыбочкі, і божыя кароўкі, і насценныя шашкі, і вялікія, падлогавыя, на ўвесь пакой.

– Пойдзем, я вас пазнаёмлю з выхавальніцай **Любоўю Сляпцовай** і яе дзеткамі, якія адказныя за музей самавараў, – прапаноўвае спадарыня Ала.

Заходзім у невялічкі пакой: на палічках стаяць розныя кружачкі для кавы, пузатыя самавары размясціліся на падваконні, а пах мяты і рамонкаў паўсюль. Мы ў музеі гарбаты.

Гаспадары і экскурсаводы ў гэтым пакоі – дзеці. Дзяўчынка **Мая** паказвае на вялікі медны самавар на падваконні і кажа:

– Гэты самавар наш. Мы прывезлі яго з татам ад бабулі Валі.

А выхавальніца тлумачыць:

– У нашай калекцыі ёсць два сапраўдныя тульскія самавары. Гэтаму 118 гадоў, а ёсць яшчэ адзін, яму ажно 130 гадоў. Даты вырабу выгравіраваныя на саміх самаварах, як і імя майстроў, што іх вырабілі. Нашы самавары – братоў Баташавых, вядомых тульскіх майстроў. У год, калі выпускаўся больш старэйшы самавар, з майстэрні братоў Баташавых выйшла каля 4000 самавараў. Так што гэты самавар, мяркую, выкліча і ў калекцыянераў зайздрасць і цікавасць.




Фота Наталлі ТУР.

**Маленькія экскурсаводы чайнага музея. Злева направа: Ягор Міхаленка, Косця Сулін, Руслана Казакевіч, Паша Мандрык, Ваня Пархімовіч, Мая Пашкевіч-Кіркоўская.**

## Самы смачны чай – з цукеркамі

Экспазіцыя гэтага невялічкага музея пачынаецца са стэнда, які прысвечаны Кітаю і кітайскай чайнай цырымоніі.

Перабіваючы адзін аднаго, маленькія экскурсаводы знаёмяць з кітайскімі чайнымі традыцыямі:

– Вы ведаеце, як з'явіўся чай? – пачынае расказваць **Ваня**. – Кітаец на вогнішчы грэў ваду, і ў яе трапіў лісток. Той пакаштаваў, яму спадабалася, і ён далей стаў кідаць у ваду лісткі, так з'явіўся чай.

– А яшчэ ў Кітаі няма крэслаў, – далучаецца да размовы **Мая**, – кітайцы сядзяць на падлозе па-турэцку ў белых халатах і п'юць чай з кубачкаў.

– Не з кубачкаў, а з піял, – папраўляе Маю **Ягор**.

**– А чаму кітайцы, а сядзяць па-турэцку?** – пытаюся ў экскурсаводаў.

– Іх у краіне Турыі так вучылі сядзець!

– А калі чай трапіў у Расію, – расказвае, бы дзеліцца сакрэтам, **Руслана**, – там яшчэ не ведалі, як яго піць, і дадавалі ў напой цыбулю і кроп. Уяўляеце, чай з цыбуляй?

**– А ў Беларусі ж чай не расце, што тады пілі нашы продкі?**

– Кіпень! – адназначна адказвае **Косцік.**

– Не, – папраўляюць Косціка дзяўчаткі, – нашы продкі збіралі зёлкі розныя, ягады. Нашы бабулі і цяпер сушаць мяту, рамонкі.

**– А які чай самы смачны?** – задаю пытанне ўсім дзеткам напрыканцы нашай сустрэчы:

– З мятай!

– З рамонкам!

– З малінай!

– З ліпай!

– З цукеркамі! – выкрыквае Ваня. І вось жа з ім не паспрачаешся.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08 @mail.ru

● КОНКУРСЫ

# Прайшлі шэсць выпрабаванняў таленту

**ВІЛЕЙКА. Штогод у канцы мая раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі падводзіць вынікі навучальнага года.**



Фота забяспечана Наталляй РЫЖЭВІЧ

Адзін з тураў конкурсу "Юны талент-2014".

Традыцыйным выніковым мерапрыемствам стаў фестываль дзіцячай творчасці "Зорны сезон", які праходзіў 23, 24 і 26 мая. На ім кожны з вучняў меў магчымасць паказаць свае дасягненні за навучальны год.

Сёлета ў межах фестывалю прайшлі акадэмічныя канцэрты навучэнцаў музычных гурткоў па класе фартэпіяна, выставы выяўленчага мастацтва, дэкаратыўна-прыкладной і тэхнічнай творчасці, святочная канцэртная праграма "Зорны россып", дзе лепшых навучэнцаў узнагародзілі пахвальнымі лістамі.

Але найбольш яркім і запамінальным мерапрыемствам стаў конкурс "Юны талент-2014" сярод навучэнцаў гурткоў. У ім прынялі ўдзел сем удзельнікаў. Ім неабходна было прайсці шэсць выпрабаванняў. У тым ліку – прадставіць сябе, выканаць кампазіцыю ў тэхніцы рванай аплікацыі, зрабіць папяровую мадэль самалёта "Каршун" і гэтак далей.

Хоць заданні і былі разнастайныя, але з імі з поспехам справіліся і дзяўчынкі, і хлопчыкі. А пераможцам конкурсу "Юны талент-2014" стаў навучэнец гуртка "Авіямадэліраванне" **Клім Севярын.**

**Наталля РЫЖЭВІЧ,**
**намеснік дырэктара Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

● КУЛЬТУРА

# Ансамблі з Вілейкі сталі лаўрэатамі міжнароднага джазавага конкурсу

**ВІЛЕЙКА. Ад 16 па 18 мая ў Салігорску праходзіў пяты Міжнародны конкурс джазавай і эстраднай музыкі "Jazz-Time-2014". Удзельнічалі ў ім больш за 350 чалавек – не толькі з Беларусі, але і Расіі.**

Дзве ўзнагароды на конкурсе заваявалі навучэнцы Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. У намінацыі "Інструментальны ансамбль" эстрадна-джазавы ансамбль (кіраўнік **Фёдар Гур**) стаў лаўрэатам другой ступені. А ансамбль ударных інструментаў пад кіраўніцтвам **Валерыя Філіпава** стаў лаўрэатам трэцяй ступені.

– Узровень конкурсу быў вельмі высокі, у складзе журы былі прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Швецыі, – паведаміла намеснік дырэктара школы па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Таццяна Грыноўская**. – Прыемна, што нашы калектывы паказалі на ім высокае майстэрства і добрую падрыхтоўку.

А 17 мая ў Лідзе на першым рэспубліканскім фестывалі-конкурсе дзіцячай творчасці "Львяня" навучэнец школы мастацтваў **Міхаіл Ваўчок** (настаўнік **Аляксандр Ціхановіч**) заняў першае месца ў намінацыі "Выканаўцы на медных духавых інструментах".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Невядомая гісторыя. Батурына

**ВІЛЕЙКА. Ёсць у Вілейскім раёне вёсачка з загадкавай назвай Батурына. Яе заўжды закраналі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў.**



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Абвяшчэнне БНР на фэсце каля Батурынскага касцёла. Чэрвень 1918 года.

Пра паходжанне гэтай назвы існуюць розныя меркаванні, але ніводнае з іх не мае пацвярджэння. Вядома толькі, што за час свайго існавання вёска ніколі не налічвала больш за два дзясяткі двароў, а цяпер і наогул засталося толькі шэсць. Паміраюць жыхары, забіраючы з сабой парэшткі вялікай, вельмі цікавай і ў большасці сваёй трагічнай часткі сапраўднай гісторыі.

Батурына размешчанае геаграфічна так, што яго заўжды закраналі ўсе падзеі, якія толькі здараліся ў краіне на працягу ўсіх стагоддзяў. Захопніцкія войны Усходу і Захаду заўжды заканчваліся падзелам Беларусі, і Батурына з'яўлялася амаль кожны раз на мяжы гэтага падзелу.

А яшчэ праз яго пралягаў і пралягае сёння Даўгінаўскі тракт, раней вядомы як адзін з галоўных гандлёвых шляхоў. У гэтым месцы перасякаліся дарогі, па якіх найкарацей можна было патрапіць у Ракаў і Гародню, Полацк і Оршу, Мінск і Вільню.

### Гістарычныя факты

Як сведчаць некаторыя гістарычныя факты, у 17 стагоддзі ў Батурыне была пабудаваная капліца, якая ўваходзіла ў Лукавецкі маёнтак Брыгіды Шумскай. Батурына на той час было ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1793 годзе, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, Батурына адышло да Расійскай імперыі. Пад гэта пераўтварэнне патрапіла і батурынская капліца. Але праз некалькі гадоў была адноўленая уніяцкая царква і вернутыя ёй ранейшыя прыходы.

Тады ж было ўтворанае Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія прыходы Лагойшчыны, да якіх была далучаная і батурынская капліца. У 1796 годзе храм быў "асвечаны абрадам рымскім пад тытулам святога Мікалы" і стаў філіяльным касцёлам пры парафіі ў Гайне (Лагойскі раён), а пасля пры парафіі ў Радашкавічах. У 1920 годзе святыня была зноў асвечаная як касцёл, але ўжо пад тытулам Найсвяцейшай Панны Марыі.

Касцёл у Батурыне дзейнічаў да Другой сусветнай вайны, а ў 1943 годзе быў спалены разам з вёскай і больш ужо не адбудаваўся. Мікалаеўскі касцёл быў драўляны, на каменным падмурку.

Як сцвярджаюць сведкі і мяркуючы па здымку 1918 года, які зберагла разам з іншымі і перадала мне Ганна Ігнатаўна Васько (Арцішэўская) з Маладзечна, былая жыхарка Батурына, касцёл глядзеў на ўсход і пярэдняя верхняя яго частка ўтрымлівалася на шасці сяміметровых мураваных калонах. Інтэр'ер упрыгожвалі тры "на оптыку маляваныя" алтары. Да філіі ў Батурыне прыпісвалася капліца ў Карпавічах (у 1870 годзе скасаваная).

### Паўстанні і войны не мінулі Батурына

У 1863 годзе пачалося ўсебеларускае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага супраць царскіх захопнікаў. Баявыя дзеянні праходзілі і ў нас. Пасля жорсткага знішчэння расійскімі імператарскімі вайскоўцамі атрада паўстанцаў, які сфарміраваў Вінцэнт Козел (Козел-Паклеўскі) пад Уладыкамі, дзе загінула больш за 150 нашых землякоў, у знак помсты за супраціў імперская ўлада ў 1864 годзе зачыніла Батурынскі касцёл і перадала яго праваслаўным.

Пачалося абрусенне сялянства і прымусовы пераход у праваслаўе. З цягам часу у Батурыне, каля самага касцёла, было пабудаванае і адчыненае народнае вучылішча, у якім навучанне вялося толькі на рускай мове. Прымусовае праваслаўе і рускамоўнае школьнае навучанне ў Батурыне скончылася ў 1918 годзе пасля падпісання Брэсцкага міру, паміж Германіяй і ўжо бальшавіцкай Расіяй. Брэсцкі мір для Батурына стаў запамінальнай і знакавай падзеяй.

### Фэст у Батурыне з нагоды ўтварэння БНР

25 сакавіка 1918 года была ўтвораная Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). У Батурыне гэту падзею адзначалі з вялікімі ўрачыстасцямі. Афіцыйных архіўных звестак, на жаль, гэтага святкавання з нагоды аб'яўлення БНР не існуе.

Але яны дайшлі да нашых дзён дзякуючы цудам уцалелым фотаздымкам, зробленым амаль стагоддзе таму. Абвяшчэнне аб утварэнні БНР у Батурыне праводзілася ва ўрачыстых абставінах на Пятра, падчас фэсту каля касцёла.

Фэсты ў Батурыне ладзілі кожны год, на Пятра і Сёмуху. І кожны раз у святкаванні прымала ўдзел шмат людзей. Яны збіраліся з усёй акругі. Хто гандляваў, а хто набываў. Асабліва для дзяцей гэта свята было заўжды вельмі запамінальным, таму што толькі на гэтых святах бацькі маглі дазволіць ім наесціся прысмакаў. У іншыя дні года з-за галечы і жабрацтва ў сялянскіх сем'ях рацыён быў вельмі сціплы.

Пра незвычайны і вельмі значны для жыхароў фэст ужо новая ўлада, нямецкая, пачала абвяшчаць яшчэ з вясны.

Запрашаліся ўсе, хто толькі мог сюды дабрацца. На прызначаны не зусім сонечны, але ціхі і цёплы чэрвеньскі дзень да Батурынскага касцёла пачалі з'язджацца і прыходзіць пешшу жыхары з усіх навакольных вёсак. Не цярпелася даведацца, што ж новага, незвычайнага і каштоўнага для сябе яны змогуць пачуць на фэсце?

Каля касцёла сабралася больш за тысячу чалавек. Усе прыхаджане былі ў святочным убранні. Кайзераўскія вайскоўцы ў парадных мундзірах утварылі ганаровую варту ўздоўж сцежкі перад касцёлам. Ад касцёла замест арганнай мелодыі разносілася нейкая іншая і вельмі моцная, прыхаджанам невядомая. Гэта іграў вайсковы нямецкі аркестр, запрошаны ўрадам БНР.

Пасля набажэнства перад сялянствам выступіў прадстаўнік маладога Беларускага ўрада. Ён падрабязна расказаў прысутным пра незалежнасць маладой беларускай краіны, пра яе перспектывы і ў сувязі з гэтым, які далейшы жыццёвы лёс чакае батурынцаў і наогул усіх сялян з навакольля.

З гэтага часу батурынская школа стала беларускамоўнай, а на самой школе быў замацаваны бел-чырвона-белы сцяг з пагоняй.

Немцы такім зменам у краіне не пярэчылі, прытрымліваліся нейтралітэту. Але ў хуткім часе яны вымушаныя былі адмовіцца ад Брэсцкага міру і пакінуць Беларусь. Гэта зрабіць іх падштурхнула камуністычная рэвалюцыя на сваёй радзіме, у Германіі.

### Батурына за Польшчай

Батурына, як і ўсю Заходнюю Беларусь, пачало зноў ліхаманіць ад змены ўлады. Не паспелі немцы пакінуць Беларусь, як на яе вайной пайшла Польшча. Ужо да восені 1919 года польскаму войску ўдалося заваяваць вялікую частку Беларусі. Батурына таксама апынулася пад Польшчай.

Але тагачасны кіраўнік Польшчы Юзаф Пілсудскі не разлічыў сілы свайго войска і ў хуткасці, вясной 1920 года, савецкая Расія, паправіўшы сваё палітычнае становішча, пачала адваёўваць тэрыторыі, занятыя Войскам Польскім.

Урад БНР вымушаны быў з'ехаць з краіны на Захад. Батурына ў чарговы раз перайшло ва ўласнасць Расіі, але таксама ненадоўга. 17 жніўня 1920 года Чырвоная Армія пацярпела знішчальнае паражэнне пад Варшавай, і таму бальшавікі вымушаныя былі пайсці на перамовы з Польшчай.

18 сакавіка 1921 года ў Рызе была падпісаная мірная дамова паміж Польшчай і савецкай Расіяй, у выніку палітычнага гандлю Беларусь зноў стала разменнай манетай. За мір бальшавікі з палякамі разлічыліся не сваёй тэрыторыяй, а Заходняй часткай Беларусі. Батурына зноўку апынулася пад Польшчай, стаўшы памежжам з савецкай Расіяй.

У вёсцы размясцілася польская стражніца, якая прастаяла тут амаль дваццацігоддзе. У гэтым жа 1921 годзе ў Батурыне польскай уладай было забароненае ў школе навучанне на беларускай мове. У ёй былі адкрыты чатыры польскія класы. І наогул паўсюдна сярод насельніцтва пачалося апалячванне.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**
**Працяг будзе.**

## ● КАЛЯНДАР

**30 мая.** Нарадзіўся Анатоль Крывенка (1942), беларускі мастак, партрэтыст. Скончыў мастацкую школу пры Віленскім мастацкім інстытуце (1959). Скончыў два факультэты (філасофіі і эстэтыкі) Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КП Літвы, у 1990 годзе выйшаў з радоў КПСС. З 1972 года – вучэбны майстар на кафедры графікі Беларускай Акадэміі мастацтваў. Прафесійны друкар мастацкага друку. За 30-гадовую працу ганараваны медалём Савета мастакоў Беларусі. Сярод яго работ – "Генадзь Каханоўскі", "Васіль Быкаў і Барыс Кіт у Франкфурце-на Майне", "Аляксандр Уласаў", "Зоська Верас", "Канстанцыя Буйло", "Казімір Свёнтак", "Кастусь Акула", "Міхась Забэйда-Суміцкі" "Партрэт генерала Францішка Кушаля" "Язэп Драздовіч", "Паўліна Мядзёлка". За ўсе гады ім напісана больш за 264 жывапісныя і графічныя партрэты.

***

**31 мая.** 1996 год. У Іркуцку (Расія) створанае Таварыства беларускай культуры імя Івана Чэрскага.

***

**1829 год.** Памёр Францішак Сапега, удзельнік паўстання 1794 года.

***

**1 чэрвеня.** Міжнародны дзень абароны дзяцей.

***

**2 чэрвеня.** 1869 год. Нарадзіўся Канстанцін Валасовіч, падарожнік, натураліст, геолаг, географ, хімік.

***

**3 чэрвеня.** 1786 год. Нарадзіўся Канстанцін Тызенгаўз, асветнік, прыродазнаўца.

***

**4 чэрвеня.** 1986 год. У Маскве памерла Канстанцыя Буйло, беларуская паэтэса, заслужаная дзяячка культуры ў Беларусі. Скончыла настаўніцкія курсы ў Вільні, настаўнічала на Лідчыне, загадвала беларускай кнігарняй у Полацку. Ад 1923 года жыла ў Маскве. Друкавалася з 1909 года ў газеце "Наша ніва". Першы зборнік – "Курганная кветка". Яе верш "Люблю" стаў папулярнай песняй. Пахаваная у вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

***

**1872 год.** Памёр Станіслаў Манюшка, кампазітар, дырыжор, педагог, класік польскай і беларускай оперы, вакальнай лірыкі.

***

**5 чэрвеня.** 160 гадоў з дня нараджэння Юдаля Пэна (Іегуды) (1854 – 1937), беларуская жывапісца і педагога.

***

**1938 год.** У Сібіры ў савецкім канцлагеры расстраляны Юрка Лістапад, дзеяч нацыянальнага вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# "Круглы стол": ці трэба музычная адукацыя?

**МАЛАДЗЕЧНА. "Круглы стол" па праблеме музычнага выхавання дзяцей "Рэгіянальная газета" зладзіла 22 мая.**

Пытанне аб тым, якія праблемы існуюць у музычным выхаванні дзяцей, чаму дзеці кідаюць музычныя школы, узняў наш чытач музыкант **Віталь Качаткоў.**

За агульным сталом у рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" гэтыя і шматлікія іншыя праблемы абмеркавалі нашы госці: **Віталь Качаткоў**, спявак і музыкант; **Юры Церабун**, выкладчык музыкі з амаль 40-гадовым стажам, музыкант; **Уладзімір Яцыновіч**, дырэктар Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў; **Сяргей Шыман**, бард, выкладчык музыкі; **Сяргей Ярук**, дудар, мультыінсументаліст, выкладчык музыкі; **Алесь Дзямідчык**, выпускнік музычнага каледжа імя Агінскага.

Нягледзячы на выказанае незадавальненне музычнай адукацыяй Віталем Качатковым, дырэктар школы мастацтваў Уладзімір Яцыновіч пракаментаваў:

– У Беларусі не самая горшая сітуацыя з музычным выхаваннем. Я часта бываю на розных конкурсах і магу вас запэўніць, што ў іншых краінах сітуацыя нашмат горшая. Узяць хаця б тую ж Балгарыю ці Літву. За апошнія гады колькасць музычных школ у гэтых краінах значна скарацілася.

**І гэта вялікае шчасце, што ў Беларусі класічную сістэму навучання музыцы захаваць усё ж такі ўдалося.**

Сёння ў нашай школе працуе некалькі аддзяленняў, але калі ёсць жаданне займацца не толькі па праграме музычнай школы, то, калі ласка, у нашы студыі. Тут можна рабіць усё, што захочаш!

**Віталь Качаткоў.** Але ж за апошнія дзесяцігоддзі ў музыцы адбылося столькі змен! Цяпер нікому не цікава глядзець на ансамбль з 20 баяністаў (адразу ўзнікае пытанне, а чаму не 50 баяністаў у ансамблі). Сучасныя тэхналогіі дазваляюць пры дапамозе гуку і мікрафонаў прымусіць адзін баян гучаць, як цэлы ансамбль. Але гэтаму ў музычных школах не вучаць.

**Уладзімір Яцыновіч.** Ніколі не пагаджуся з такім меркаваннем! Ты, Віталь, хочаш прапанаваць музіцыраваць пад фанаграму. І што ў гэтым такога? Навацыяй гэта не з'яўляецца.

### Церабун. "Не люблю, калі піяніст папраўляе порткі!"

Сваё меркаванне наконт музычнай адукацыі выказаў Юры Церабун, выкладчык з амаль 40-гадовым стажам, які выхаваў не адзін дзясятак музыкантаў.

– Я скажу так, сапраўднага музыканта можа выхаваць толькі настаўнік-асоба. Адбіць ахвоту навучацца музыцы можна лёгка. І задача настаўніка – заўважаць змены настрою ў сваім вучні.

Бывае, прачнулася дзіця, у яго такі настрой, яму так хочацца сваю бадзёрасць і весялосць перадаць у музыцы, прыходзіць яно на заняткі, а настаўнік прымушае яго іграць цішэй ці акцэнтаваць адзін кавалак 100 разоў. На наступныя заняткі гэта дзіця ўжо падумае, ісці яму ці не.

У маім жыцці быў такі прыклад з адной вучаніцай. Я даў ёй вельмі складаную праграму. І прыйшоў параіцца да славутай мастачкі **Ядвігі Раздзялоўскай**, ці правільна я раблю. І яна ў мяне пытаецца: "Ну нашто ты даеш такую нагрузку, хіба ў яе няма сяброўак, няма іншых спраў? А я ж, калі б не даў ёй адпачыць, сваім жаданнем даць як мага больш матэрыялу мог загубіць талент.

А настаўнік павінны вучыць не толькі музыцы, але і агульным паводзінам, культуры, як трэба сябе паводзіць на сцэне.

**Я вельмі не люблю, калі не адгучаў яшчэ апошні акорд, піяніст яшчэ не пацалаваў раяль, а ўжо ўстаў і порткі папраўляе.**

Наступнае пытанне "круглага стала" вядучая адрасавала Сяргею Шыману, выкладчыку бардаўскай песні, які працуе ў дзіцячым цэнтры творчасці "Маладзік".

**– Сяргей, нам вас рэкамендавалі як чалавека, да якога прыходзяць вучыцца дзеці, якія па нейкіх прычынах кінулі музычную школу. Ці так гэта?**

– Так, і пэўныя праблемы ў музычнай адукацыі ўсё ж такі існуюць. З 24 маіх вучняў амаль палова мае 1-2 класы музычнай школы. Калі бацькі прыводзяць да мяне дзяцей, яны кажуць: "Толькі не трэба ім праз меру даваць ноты, проста навучыце іх іграць на гітары". Але па сабе я ведаю, што, калі ў дзіцяці ёсць пачатковая музычная адукацыя, з ім працаваць адно задавальненне. Таму музычная адукацыя быць павінна.

### Толькі 25% вучняў працягваюць музычную адукацыю

**Уладзімір Яцыновіч.** Але ж не барды гонар краіны. Нават Акуджава і Высоцкі не могуць паспрачацца з Гергіевым, дырыжорам, галоўным дырыжорам і мастацкім кіраўніком Марыінскага тэатра.

**Толькі 20 выпускнікоў музычнай школы са ста працягваюць музычную адукацыю.**

Гэта 25%. І гэта не дзіўна, не могуць 100% вучняў быць вядомымі музыкантамі.

**– А ці ёсць статыстыка, колькі дзяцей кідае школу, не давучыўшыся?**

**Уладзімір Яцыновіч.** Ёсць у нас такая статыстыка.

Выпускнік музычнага каледжа Алесь Дзямідчык прызнаецца, што працягваць музычную адукацыю не мае намеру:

– Пасля заканчэння музычнага вучылішча я мяркую, што яшчэ пяць гадоў у кансерваторыі мне нічога не дадуць. Я не хачу атрымоўваць два мільёны заробку, працягваючы працаваць у музыцы.

Наконт навучання, я перакананы, што ў ім павінны быць зацікаўленыя не толькі выкладчыкі і дзеці, але і бацькі. Ну, не можа дзіця стаць паспяховым музыкантам, калі дома яму будуць казаць увесь час: "Цішэй! Не перашкаджай! Рабі, што хочаш!"



Фота з архіва Алеся ДЗЯМІДЧЫКА.

Алесь Дзямідчык, выпускнік музычнага каледжа. На сённяшні дзень звязваць далейшы лёс з музыкай не плануе.

**Сяргей Ярук.** Падтрымліваю цалкам: не музычнай адукацыі трэба вучыць, а трэба выхоўваць асобу. І думаць сваёй галавой.

### Настаўнік павінен улюбіць у сябе дзіця

Напрыканцы сустрэчы ўсім удзельнікам "круглага стала" было прапанавана даць парады бацькам і дзецям, якія маюць сумненні ў тым, ці трэба навучацца музыцы.

**Алесь Дзямідчык.** Бацькам дапамагаць сваім дзецям, а настаўнікам быць мякчэйшымі да вучняў.

**Сяргей Ярук.** Толькі супрацоўніцтвам бацькоў і выкладчыкаў можна дамагчыся жаданых вынікаў.

**Сяргей Шыман.** Бацькам праяўляць цікавасць да спраў дзіцяці.

**Уладзімір Яцыновіч.** Я пагаджуся з маімі калегамі:

**Паспяховая музычная адукацыя – гэта трохкутнік: бацькі, настаўнік, дзіця.**

І яшчэ я заўсёды кажу сваім калегам: улюбіце дзіця ў сябе. Толькі калі дзіця палюбіць вас, яно тады палюбіць і тую справу, якой вы вучыце.

**Віталь Качаткоў.** Мяне засмучаюць словы людзей, якія пабывалі за мяжой і кажуць, што там такая класная музычная адукацыя. А я хачу, каб было класна і ў нас.

**Юры Церабун.** Падвесці вынік размовы я хачу адным сказам. Зусім нядаўна я знайшоў запіску, якую шмат гадоў назад напісаў сваім дзецям: "Лена і Вова, ешце тое, што знойдзеце, і займіцеся музыкай!"

**Запісала Наталля ТУР, "круглы стол" вяла Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Музыкантам можна стаць у любым узросце

**Другая частка "круглага стала" была прысвечана пытанням ад чытачоў, што прыйшлі на сайт "Рэгіянальнай газеты" падчас анлайн трансляцыі "круглага стала".**

**– Маёй дачцэ 25 гадоў. У дзяцінстве яна не хацела займацца музыкай, а цяпер вельмі хоча. Ці не позна вучыцца?**

**Уладзімір Яцыновіч.** Музыцы вучыцца ніколі не позна. У нас у музычнай школе існуюць студыі, у якіх можна займацца і калі табе 12 гадоў, і калі 72.

**– Дзіця не хоча вучыцца музыцы, а я як маці лічу, што яно павінна атрымаць музычную адукацыю. Як лепей: ісці на повадзе ў дзіцяці ці ўсё ж прымусіць яго скончыць музычную школу?**

**Уладзімір Яцыновіч.** Цяжкасці сустракаюцца заўсёды. І тое, што дзіця хоча кінуць школу, нармальна, і здараецца такое даволі часта. Але вы ж не проста ідзяце на повадзе ў дзіцяці, вы выхоўваеце яго характар. Так, кінуць вельмі проста, а вы зрабіце так, каб ваша дзіця вучылася пераадольваць цяжкасці.

**Юры Церабун.** Бацькі павінны несці адказнасць за дзяцей. У мяне сын цяпер працуе віяланчэлістам у Францыі і час ад часу дасылае смс-паведамленні: "Бацька, дзякуй за наша дзяцінства". У такія моманты і слёзы наварочваюцца. Але з маімі дзецьмі ніколі не было праблемы, кідаць школу ці не. Займацца музыкай у іх была патрэба.

**– Ці толькі здольнае да музыкі дзіця трэба аддаваць у музычную школу?**

У адказе на гэта пытанне былі аднагалосныя ўсе ўдзельнікі "круглага стала":

– Любое!

А Юры Церабун адзначыў:

– Кожнае дзіцятка вельмі творчае. Дзеці – мастакі па сваёй натуры. Памятаю, як я спытаў у аднаго са сваіх вучняў: "Чаму ты спазніўся на заняткі?". А ён мне і кажа: "Быў такі вецер, такое неба шэрае ў хмарах, а адзін лісточак ніяк не мог адарвацца ад галінкі. І вось я затрымаўся, каб паглядзець, калі ж ён адарвецца і яго панясе ветрам".

### Удзельнікі "круглага стала"



Юры Церабун.



Віталь Качаткоў.



Уладзімір Яцыновіч.



Сяргей Ярук.



Сяргей Шыман.

ДА 100-ГОДДЗЯ ПАЧАТКУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Нарачанскі рэгіён у 1916 годзе

**МЯДЗЕЛ. Зіма 1915-1916 гадоў на руска-германскім фронце прайшла адносна спакойна. Затое на берагах Нарачы рускія войскі вызначыліся ўдала праведзенай аперацыяй.**

## Смелы налёт капітана Шчапяцільнікава

У кнізе **А. Керсноўскага** "Гісторыя рускай арміі" знаходзім грунтоўнае апісанне той падзеі:

"Студзень і люты прайшлі спакойна. Адзінай выдатнай падзеяй тут быў выключна смелы налёт капітана **Шчапяцільнікава** з калыванцамі 27 лютага па лёдзе возера Нарач, які ўжо ўскрываўся.

З-за адлігі пастаўленыя немцамі на лёдзе папярок возера Нарач драцяныя загароды ўпалі. Над лёдам выступіла вада. Капітан Шчапяцільнікаў узяў з сабой усе каманды 40-га пяхотнага Калыванскага палка, якімі ён загадваў: 600 штыкоў пры 16 кулямётах Кольта і 8 стрэльбавых кулямётаў. Выступілі ў цемры і, абрынуўшыся на немцаў знянацку, захапілі чатыры іх батарэі, прывялі ў поўную непрыдатнасць 14 гармат і ўзялі ў палон 9 штаб- і обер-афіцэраў і 163 ніжніх чыноў. Назад адышлі пад агнём, пераходзячы па дошках праз расколіны ў лёдзе. Вынікі маглі быць яшчэ больш значныя, але начальнік штаба 10-й пяхотнай дывізіі даў маху і не падтрымаў своечасова капітана Шчапяцільнікава кацярынбуржцамі, як тое было дамоўлена.

Нашы страты склалі каля чвэрці ўсяго атрада... Пераход Нарачанскага возера ў абодва канцы, туды – у цемры, назад – пад агнём, вёўся па калена ў вадзе, з пастаяннай рызыкай праваліцца ў палонкі і расколіны".

Ад сябе можна толькі дадаць, што возера Нарач немцы ў свой час перагарадзілі калючым дротам. Падчас абстрэлу альбо па вясне гэты дрот праваліўся пад лёд. Таму пасля вайны калючы дрот на дне возера яшчэ доўга замінаў мясцовым рыбакам лавіць рыбу, так як аб яго ўвесь час рваліся рыбалоўныя сеткі (на адным са здымкаў віленскага фотамайстра Яна Буглака можна пабачыць рэшткі нямецкага дроту на беразе возера Нарач).

## Галоўны ўдар вызначылі ў раёне нарачанскіх азёр

Аднак у сакавіку на берагах нарачанскіх азёр наканавана было разгуляцца крывавай трагедыі, якая была прадвызначана жорсткай логікай сусветнай вайны.

Выкарыстаўшы кароткачасовае зацішша на Усходнім фронце, германскае камандаванне ў лютым 1916 года распачало нечаканае наступленне супраць французаў у раёне горада Вердэн.

Становішча імкліва пагаршалася. Францыя апынулася літаральна на мяжы катастрофы і заклікала Расію (ужо праз свайго пасла **Морыса Палеолага**) як мага хутчэй аказаць дапамогу. Ва ўспамінах начальніка аховы царскай сям'і **Аляксандра Спірыдовіча** пра гэты момант распавядаецца наступным чынам:

"27-га лютага Палеолаг быў запрошаны ў палац на сеанс кінематографа. Паказвалі фільм абароны Вердэна, а на другі дзень Гасудар на аўдыенцыі абяцаў яму дапамагчы Францыі пры першай магчымасці".



З кнігі Генадзя МАЛЫШАВА "Нарачанская раза Вердэна".

Нямецкі шпіталь 21-га армейскага корпуса ў царкве ў Кабыльніку.

Начальнік Генеральнага штаба Германіі **Эрых фон Фалькенгайн** пазней прыгадваў: "Не было аніякага сумневу, што наступленне з боку рускіх ажыццяўлялася толькі пад націскам іх заходніх саюзнікаў і толькі дзеля іх падтрымкі. Ніякі адказны начальнік, не знаходзячыся пад знешнім прымусам, не мог бы настолькі нізкавартасныя войскі павесці супраць вельмі трывала умацаваных пазіцый, якімі валодалі немцы. Калі б нават былі дасягнутыя першапачатковыя поспехі, іх нельга было выкарыстаць пры тым стане дарог у гэту пару году".

Былі і іншыя прычыны, якія заахвоцілі царскую Стаўку кінуць у наступленне велізарную масу рускіх войскаў. Так, генерал **А. Самойла** напісаў у сваіх мемуарах наступнае: "Як у 1914 годзе пры абвяшчэнні вайны царскі ўрад бачыў у ёй сродак барацьбы з рэвалюцыяй, так у 1916 галоўнакамандаванне шукала ў наступленні выхад з цяжкага агульнага становішча ў краіне і ў войску, хоць баявая абстаноўка з разваленай арміяй не прадказвала нічога добрага".

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ,**
**в. Нарач (Кабыльнік).**
**Працяг будзе.**

# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

## Штогод на чыгунцы гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі

**Чыгуначны транспарт – гэта велізарны цэх нашай народнай гаспадаркі, які раскінуўся на тэрыторыі ўсёй рэспублікі. Ён абсталяваны новымі магутнымі відамі цягі. Пры высокай інтэнсіўнасці і павышаных хуткасцях руху цягнікоў, пры вялікіх аб'ёмах перавозак чыгунка ўяўляе пэўную небяспеку для людзей, якія жывуць каля яе або карыстаюцца яе паслугамі.**

Чыгунка – гэта бесперапынна дзеючы транспартны канвеер краіны, адначасова – зона павышанай небяспекі. Гэта не пустыя словы, гэта реальна дзеючы фактар. Імгненна, у выпадку неабходнасці, спыніць цягнік на хаду немагчыма, на гэта трэба некалькі хвілін. Нават калі машыніст лакаматыва прымяняе экстраннае тармажэнне, састаў цягніка ў сілу сваёй хуткасці і масы працягвае рухацца па інерцыі, яго тармазны шлях складае некалькі соцень метраў. Таму знаходжанне людзей на чыгуначных пуцях у той момант, калі праходзіць цягнік, можа прывесці да няшчаснага выпадку.

Штогод на чыгунцы нашай рэспублікі гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі.

Няшчасныя выпадкі наносяць велізарныя страты. Тут і прамыя страты ад разбурэння транспартных сродкаў, псавання грузаў і чыгуначных збудаванняў. Але галоўныя страты грамадства – гэта чалавечыя ахвяры.

У нашай краіне затрачваюцца велізарныя сродкі на бяспеку людзей на транспарце, прымаюцца эфектыўныя меры для таго, каб цалкам ліквідаваць або звесці да мінімуму няшчасныя выпадкі на чыгунцы: у кіраванні перавозачным працэсам шырока ўкараняецца аўтаматыка, тэлемеханіка, электроніка, самыя новыя сродкі сувязі, сігналізацыі, цэнтралізацыі і блакіроўкі. На станцыях будуюцца пуцеправоды, пешаходныя масты і тунэлі. Узмацняецца асвятленне, пераходы абсталёўваюцца апавяшчальнай гукавой сігналізацыяй. Іншымі словамі, прымаюцца ўсе меры, каб стварыць бяспечныя ўмовы для насельніцтва.

Трэба не толькі ведаць правілы, але і дакладна разумець іх сэнс, ясна ўсведамляць, да чаго можа прывесці (і, на жаль, прыводзіць) парушэнне гэтых правілаў. Дорага абыходзіцца бяспечнасць і нядбайнасць пешаходаў.

У 2013 годзе адбыўся 91 выпадак траўмавання грамадзян (супраць 87 у 2012 годзе). Колькасць смяротна траўмаваных склала 62 чалавекі. Колькасць самагубстваў – 12. Траўмавана 5 непаўналетніх. У стане алкагольнага ап'янення ў момант здарэння знаходзіўся 41 чалавек.

У межах Маладзечанскай дыстанцыі пуці за 2013 год смяротна траўмавана 7 чалавек.

Нярэдка, на жаль, няшчасныя выпадкі адбываюцца з дзецьмі. Дакументальныя матэрыялы з усёй пераканаўчасцю сведчаць, што ў большасці выпадкаў дзіцячага траўматызму вінаватыя дарослыя. Бацькі, якія жывуць паблізу чыгункі, пакідаюць без нагляду малых. Дарослыя рэдка спыняць дзяцей, якія бесклапотна крочаць па шпалах або бегаюць прама па рэйках, і папярэдзяць іх пра небяспеку. Добры прыклад дарослых – лепшы сродак выхавання ў дзяцей паважлівага стаўлення да чыгуначных правілаў. Але такі прыклад, на жаль, не заўсёды падаецца.

Часта можна бачыць, як маці ці бабуля, заціснуўшы ў сваёй руцэ дзіцячую далоньку, паспешліва пераходзяць праз чыгуначныя пуці. Трэба ведаць псіхалогію дзіцяці, для яго ж паводзіны дарослага – заўсёды прыклад.

На жаль, многія пешаходы да папераджальных сігналаў на станцыях і пераездах ставяцца як да капрызаў чыгуначніка, праяўляюць бестурботнасць, імкнуцца скараціць шлях і пераходзяць пуці ў любым, неўстаноўленым для гэтага месцы. І расплачваюцца за сваю недысцыплінаванасць уласным здароўем і жыццём.

Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінен ведаць і выконваць наступныя **ПРАВІЛЫ БЯСПЕКІ на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўстаноўленыя ўказальнікі "Пераход праз пуці".
2. Калі пераходзіце пуці па пешаходным насціле, перш пераканайцеся, ці не рухаецца цягнік, лакаматыў.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, прадоўжыце пераход.
4. Калі падыходзіце да чыгуначнага пераезда, то ўважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзіць пуці можна толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці, перш чым перайсці праз пуці, пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце толькі пасля поўнага спынення цягніка, з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА :**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад транспартам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго напрамку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках набліжацца да неабгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Перавозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і далёкага следавання.

Маладзечанская дыстанцыя пуці, калектыў якой звяртаецца з гэтым лістом да чытачоў, размешчана ў 9 раёнах Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Калектыў абслугоўвае больш за 700 кіламетраў чыгуначных пуцей, 99 пераездаў, 74 прыпыначныя пункты і вялікую колькасць іншых збудаванняў чыгуначнага транспарту.

Усім нам далёка неабыякавы лёс людзей, якія загінулі або траўмаваныя на пуцях – ні машыністу цягніка, які пасля прыпынку саставу спяшаецца на дапамогу, ні работнікам пуці, якім трэба даставіць пацярпелых сваімі сіламі і транспартам у спецыяльныя ўстановы і правесці службовае расследаванне.

Паважаныя чытачы газеты! Будзьце ўважлівыя і цярплівыя пры сутыкненні з чыгункай і яе ўладкаваннем. У гэтым залог вашай бяспекі і бяспекі вашых родных і блізкіх людзей.

**Маладзечанская дыстанцыя пуці.**

УНП 600199567

● ФУТБОЛ

# "Маладзечна-2013" перамагло па пенальці

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 мая адбылася адборачная гульня Кубка Беларусі. Маладзечанцам супрацьстаяла каманда "Прыазер'е" з Верхнядзвінска. Вынік 6:5.**



Гульня з "Прыазер'ем" доўжылася дзве з паловай гадзіны. І толькі ў серыі пенальці маладзечанцы "дамучылі" саперніка.

Фота Наталлі ТУР.

Пасля гульні на пытанні "Рэгіянальнай газеты" адказаў дырэктар клуба **Аляксандр Любанец** і галоўны трэнер каманды Дзмітры Ганчароў.

Гульня з верхнядзвінскай камандай доўжылася амаль дзве з паловай гадзіны. Перамагчы маладзечанцы здолелі толькі па серыі пенальці, узяўшы саперніка зморам – 6 : 5. У асноўным часе ні маладзечанцам, ні камандзе саперніка не пашчасціла адкрыць лік.

У другім тайме варатар "Прыазер'я", атрымаўшы чырвоную картку, пакідае гульню. Аднак гэтыя абставіны не дапамаглі камандзе "Маладзечна-2013" скарыстацца перавагай. Прызначаны пенальці ляціць міма варотаў. Нягледзячы на тое, што маладзечанцы спрабуюць ствараць вострыя моманты ля варотаў саперніка, якія засталіся без гаспадара, жаданага выніку іх спробы не прыносяць.

Як нехта з прысутных трапна заўважыў, гульня больш была падобная да спартыўнай хады з мячом.

**– Як у цэлым уражанні ад гульні?** – пытанне да кіраўніцтва клуба.

Першым на яго адказаў дырэктар ФСК "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец**:

– Увогуле гульня спадабалася, нарэшце, з'явілася нейкая стабільнасць у камандзе. Па маіх адчуваннях, у абароне хлопцы адпрацавалі добра. У канцы гульні "дамучылі" ўсё ж саперніка.

Мяне здзівіла тое, што ў сваёй групе А, дзе гуляе Верхнядзвінск, каманда займае трэці радок, а па гульні з Маладзечнам і не скажаш. Мне падалося, што нашы хлопцы глядзеліся не горш.

**– Аляксандр, не магу не задаць пытанне ад заўзятараў: можа, каманда ўвесь час прайграе таму, што ў нас благі трэнер?**

– У нас добры трэнер. Вельмі шкада, што заўзятары так думаюць. Атрымоўваецца, што каманда сутыкнулася з цяжкасцямі, а яны ўжо абвінавацілі трэнера ва ўсіх смяротных грахах. Так, збоку, відаць, рабіць высновы лягчэй, а вы прыйдзіце і правядзіце трэніроўку. І гульцоў у патрэбнае месца паставіце, і ўстаноўку на гульню дайце, тады і разважайце. Так, Дзмітры не самы вопытны трэнер, але ён спрабуе. А вы спытайце ў Мятліцкага, чаму ён сышоў у апошні момант, пакінуўшы каманду без трэнера?

**– Ці размаўлялі вы з прадстаўнікамі ДЮСШ наконт таго, каб запрасіць кагосьці з футбалістаў ці кіраўніцтва на трэнерскую працу ў ФСК "Маладзечна-2013"?**

– А што, хтосьці выявіў жаданне? Я не разумею пазіцыю ДЮСШ. Ужо час забыцца на старыя крыўды і падысці да дыялогу канструктыўна. Мы ж не звяры, ну, патэлефануйце, прапануйце, мы пойдзем на сустрэчу. А наконт нового трэнера з ДЮСШ не думаю, што гэта слушная прапанова. Пакуль новы трэнер знойдзе кантакт з футбалістамі, увойдзе ў рабочы працэс. Іншая справа, той трэнер, з досведам якога ў трэнерскай працы я быў бы знаёмы.

А наконт проста пазваніць і дамовіцца аб сустрэчы яскравы прыклад нашага гульца **Цімафея Ігрушы.** Ён сам знайшоў кантакты трэнера, сам прыехаў на прагляд, і вось, калі ласка, амаль кожную гульню іграе ў аснове.

**Дзмітры Ганчароў**, галоўны трэнер ФСК "Маладзечна-2013", гульнёй задаволены.

– Дакладней сказаць, – кажа Дзмітры, – я задаволены тым, што каманда прайшла ў наступны этап. Так, нам у гульні не хапіла майстэрства і ўдачы, але каманда ўжо больш упэўненая ў сваіх сілах, усе мае ўстаноўкі на гульню хлопцы выканалі.

**– Дазвольце паспрачацца: каманда-саперніца большую палову гульні гуляла без варатара і вы называеце гэта "каманда выканала ўстаноўку"?**

– Ну, вам з трыбун, канешне, лепей відаць, што да чаго. Але я лічу, што справядлівасць у гэтым матчы ўсё ж такі перамагла. Наша каманда стварала больш небяспечных момантаў ля варотаў саперніка. Паўтаруся, не хапіла майстэрства, каб у атаках ставіць кропку, але гэта справа нажыўная. Трэніравацца і яшчэ раз трэніравацца. Я так думаю: калі будзе прагрэс у трэніроўках, то і перамогі абавязкова прыйдуць.

**Наталля ТУР.**

## Чэмпіянат вобласці

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** У суботу, 24 мая, адбыліся гульні чацвертага тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе.

У ім сустрэліся "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Вілія" з Вілейкі. Гульня завяршылася з лікам 3:2 на карысць маладзечанцаў.

– Гульня была цікавая, – адзначыў капітан "Віліі" **Алег Гулевіч**. – У першым тайме перавага была цалкам на баку маладзечанцаў, яны добра трымалі мяч, камбінавалі. Першая палова гульні завяршылася з лікам 2:0 на іх карысць. Потым яны забілі яшчэ адзін гол. І толькі пасля трэцяга прапушчанага мяча наша каманда зайграла. Забілі гол, маглі адразу яшчэ адзін адквітаць, але не ўдалося. І мы змаглі забіць другі гол. Так, хацелася больш шага, нічыю "зачапіць", аднак не атрымалася.

Першымі ачкамі "разжыўся" "Валожын-2010". Валожынцы дома выйгралі ў аўтсайдэра чэмпіянату "Крупкі-ДРБУ-164" 3:1.

"Забудова-2007" у гасцях перамагла "СМІаўтатранс" (Смалявіцкі раён) – 2:1.

### Турнірнае становішча

У групе "А" "Маладзечна-ДЮСШ-4" трымаецца на другім месцы, "Забудова-2007" – на трэцім (у абедзвюх камандаў адставанне ад лідара складае тры ачкі). "Вілія" апусцілася на шостае месца, "Валожын-2010" знаходзіцца на дзявятым.

Нашы гульцы ў спісе лепшых бамбардзіраў. Трэцяе месца дзеляць **Павел Майсяёнак** ("Маладзечна-ДЮСШ-4") і **Сяргей Остэртах** ("Забудова-2007"). Яны забілі па чатыры галы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● НАВІНЫ

## Кубак заваяваў "Першы Беларускі"

**ВІЛЕЙКА.** Завяршыліся гульні на Кубак Вілейскага раёна па футболе.

20 мая адбыліся паўфіналы. Каманда "Першы Беларускі" з мінімальным лікам 1:0 выйграла ў "Крыніцы". Асноўны час матча "Шылавічаў" з "Рубінам" завяршыўся нічыёй 2:2. А ў серыі пенальці мацнейшымі аказаліся гульцы "Шылавічаў". Вынік 5:3.

Дзве заключныя гульні адбыліся 22 мая. У матчы за трэцяе месца "Крыніца" была мацнейшая за "Рубін" 3:1. А ў фінале футбалісты "Першага Беларускага" не пакінулі шанцаў гульцам з "Шылавічаў" 4:0.

Каманда-пераможца атрымала Кубак. Адзначылі лепшых гульцоў трох камандаў.

У камандзе-пераможцы ім стаў **Максім Чабрыцкі**.

Фінальную гульню пракаментаваў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

– Нечаканасцю стала адсутнасць у вырашальных матчах мінулагодніх уладальнікаў Кубка – каманды "Буддэталяў". Ім было залічанае тэхнічнае паражэнне ў чвэрцьфінале. У фінал, апроч "Першага Беларускага", выйшлі "Шылавічы". Каманда хуткая, завадная, у хлопцаў ёсць жаданне гуляць, рухацца. У серыі пенальці добра праявіў сябе іх варатар.

У фінале гульцы "Шылавічаў" пару грубых памылак дапусцілі на першых хвілінах. Потым маглі і забіваць. Але ў другім тайме яшчэ два галы прапусцілі, і ўжо "Першы Беларускі" дагульваў матч рэзервовым складам.

## У "Надзеі" прайшоў турнір пад эгідай УЕФА

**ВІЛЕЙКА.** У дзіцячым цэнтры "Надзея" з 22 па 25 мая прайшоў турнір па міні-футболе сярод дзяцей, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і праходзяць аздараўленне ў дзіцячых рэабілітацыйна-аздараўленчых цэнтрах Беларусі.

Турнір праводзіўся пад эгідай і пры падтрымцы УЕФА. Удзельнічалі каманды з дзевяці дзіцячых цэнтраў Беларусі. У складзе камандаў былі дзеці 11-12 год.

Яны сталі ўдзельнікамі сустрэчы, дзе ім прадставілі інфармацыю пра гісторыю развіцця еўрапейскага футбола, Лігі чэмпіёнаў УЕФА.

А ў турніры першае месца занялі футбалісты цэнтра "Жамчужына" з Лепельскага раёна. Другое месца занялі гаспадары турніру – каманда цэнтра "Надзея".

– Ініцыятарам правядзення турніру выступіў дзіцячы цэнтр "Надзея". Прымеркавалі яго да 20-годдзя з дня адкрыцця цэнтра, – паведаміла вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю ўстановы **Таццяна Майсак.** – І другое месца – добры падарунак, які юныя футбалісты зрабілі цэнтру.

## Медалі мядзельскіх весляроў

**МЯДЗЕЛ.** Ад 22 па 25 мая ў Брэсце праходзіла першынство Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ сярод юніёраў і моладзі да 23 год.

Вызначыліся на ім выхаванцы Мядзельскай СДЮШАР, якія раней займаліся тут, а цяпер перайшлі на больш высокае звяно падрыхтоўкі.

**Аляксей Махніст** перамог на дыстанцыі 1000 метраў на каноэ, **Аляксей Талочка** быў другім на 200-метроўцы на каноэ.

**Алена Лапцік** выйграла адразу два "золата": перамагла на дыстанцыях 200 і 500 метраў на байдарцы. Яна цяпер уключаная ў склад зборнай Беларусі, якая вядзе падрыхтоўку да чэмпіянату Еўропы па веславанні на байдарках і каноэ ў Францыі, паведаміла метадыст СДЮШАР **Наталля Баран**.

## Напярэдадні – чвэрцьфіналы

**ВІЛЕЙКА.** У нядзелю, 25 мая, завяршыліся гульні ў групах на традыцыйным турніры па міні-футболе на штучным пакрыцці.

У першай групе два першыя месцы занялі "Шылавічы" і "Першы Беларускі".

У групе "Б" – "Мая сям'я-2" і "Воўкаўшчына". У групе "В" – "Юніёр" і "Крыніца" з Маладзечна. У апошняй групе дзве пуцёўкі заваявалі "Рубін", "Буддэталі".

Гэтыя каманды аспрэчаць месцы з першага па восьмае. Чвэрцьфіналы мяркуюць правесці на гэтых выхадных. Астатнія каманды разыграюць 9-18 месцы.

## Перамагла каманда СШ №3

**ВІЛЕЙКА.** У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея" 17 мая прайшоў штогадовы турнір па міні-футболе на прыз гэтага цэнтра. Спаборнічалі каманды школ Вілейшчыны.

Як і летась, перамаглі прадстаўнікі сярэдняй школы №3 Вілейкі. Другое месца на рахунку каманды гімназіі №2 Вілейкі, трэцяе занялі футбалісты з Куранецкай школы.

Каманда-пераможца атрымала пераходны кубак цэнтра "Надзея". Узнагародзілі і прызёраў, а таксама лепшага гульца, варатара і нападаючага турніру.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### "Маладзечна-2013" святкуе перамогу ў першым раўндзе Кубка Беларусі

А вы спытайцеся ў Мятліцкага, чаму ён сышоў у апошні момант, пакінуўшы каманду без трэнера? Заўзятары не ведаюць прычыну. ***Маладзечанец.***

### У садавода з Маладзечна сохнуць дрэвы

Была гарачыня. Спякліся дрэвы. ***Хвездя.***

### Ці можна верыць "Зоне Х"? Здарэнне ў Маладзечне выдадзенае за мінскае

Непрыемна, згодны. Не ведаю, як у іншых краінах, але на беларускіх каналах гэта ў парадку рэчаў. Сам сутыкнуўся з гэтым. Мой ролік патопу ў Маладзечне ў ліпені 2012 года выкарысталі некалькі каналаў. А СТВ на тых кадрах нават цэлы вялікі сюжэт зрабіла, добра, здымка дазваляла. Інфармацыі пра аўтарства не было ніякай. Пісаў на СТВ электронныя звароты, але безвынікова. Крадуць рэгулярна і ў іншых таксама. ***Валеры.***

Тут не простая скралі, а яшчэ і сфальсіфікавалі ўсё, што можна. ***Алекс Неабыякавы.***

### Чаму маладзечанцы не адпачываюць на Канарах? (Відзаапытанне)

Тут бы на канаву з'ездзіць адпачыць. ***Маладзечанец.***

### Ці трэба музычная адукацыя і як заахвоціць дзяцей вучыцца?

Ёсць у Беларусі добрыя музыкі, ёсць і дрэнныя. Наконт таго, што дзеці кідаюць школы (спартыўныя, музычныя ды іншыя), сапраўды, праблема, дзе шмат залежыць і ад настаўнікаў, і ад бацькоў, і ад дзяцей. Цяпер час такі, калі значна прасцей пасядзець за камп'ютарам, чым пачытаць кнігу ці пазаймацца на інструменце. Лепш у "танчыкі" пагуляць. А ператвараць кожны занятак у гульню, каб дзецям было цікава – гэта прафанацыя. Адукацыйны працэс – гэта, перш-наперш, выхаванне годнай, развітай асобы, а не эгаіста. Праблема кадраў (як зарабляеш, так і працуеш) таксама існуе. ***Настаўнік.***



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | 7 | | | 1 | |
| | 9 | 2 | 6 | | | | | |
| | | | | | | 9 | | 7 |
| 8 | | | | | | 6 | | |
| 4 | | | 2 | 8 | 1 | | | 5 |
| | | 1 | | | | | | 3 |
| 2 | | 3 | | | | | | |
| | | | | | 5 | 3 | 6 | |
| | 1 | | | 9 | | | 8 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 4 | 5 | 9 | 7 | 8 | 2 | 1 | 6 |
| 7 | 9 | 2 | 6 | 1 | 3 | 4 | 5 | 8 |
| 1 | 6 | 8 | 4 | 5 | 2 | 9 | 3 | 7 |
| 8 | 7 | 9 | 5 | 3 | 4 | 6 | 2 | 1 |
| 4 | 3 | 6 | 2 | 8 | 1 | 7 | 9 | 5 |
| 5 | 2 | 1 | 7 | 6 | 9 | 8 | 4 | 3 |
| 2 | 5 | 3 | 8 | 4 | 6 | 1 | 7 | 9 |
| 9 | 8 | 7 | 1 | 2 | 5 | 3 | 6 | 4 |
| 6 | 1 | 4 | 3 | 9 | 7 | 5 | 8 | 2 |

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Беларускія стравы ў збанках можна знайсці ў маладзечанскіх кавярнях. І беларусаў, якія іх выбіраюць.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ



### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Фэнтэзі "**Малефісента**" 3D (ЗША, 2014)
29 мая – у 21:00
30 мая – у 18:30, 21:00
31 мая – у 16:00, 21:00
1 чэрвеня – у 18:30
2 чэрвеня – у 21:00
3 чэрвеня – у 18:30
4 чэрвеня – у 21:00
Цана білета – 40 000-50 000 рублёў

Анімацыйны фантастычны баявік "**Касмічны пірат Харлак**" 3D (Японія, ЗША, 2013)
1 чэрвеня – у 16:00
4 чэрвеня – у 19:00
Цана білета – 30 000 рублёў

Прыгоды "**Цуда-востраў, ці Палескія рабінзоны**" 2D (Беларусьфільм, 2014)
30 мая – у 16:00
31 мая – у 13:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Фантастычны экшн "**Гадзіла**" 3D (ЗША, Японія, 2014)
29 мая – у 18:30
31 мая – у 18:30
1 чэрвеня – у 21:00
2 чэрвеня – у 18:30
3 чэрвеня – у 21:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Кот Гром і зачараваны дом**" 3D (ЗША, Бельгія, 2013)
1 чэрвеня – у 14:00
4 чэрвеня – у 17:00
Цана білета – 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Аэратачкі**" (ЗША, 2012)
31 мая, 1 чэрвеня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Прыгоды "**Цуда-востраў, ці Палескія рабінзоны**" (Беларусьфільм, 2014)
3-4 чэрвеня – у 16:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Трылер "**Сіністар**" (ЗША, 2012)
29 мая – у 21:30
30 мая – у 17:30, 21:30
31 мая – у 19:30
1 чэрвеня – у 17:30, 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "Калейдаскоп кахання" (США, 2012)
29, 30 мая – у 19:30
31 мая – у 17:30, 21:30
1 чэрвеня – у 19:30
2 чэрвеня – у 21:30
3 чэрвеня – у 19:30, 21:30
4 чэрвеня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

+ сеанс 2 чэрвеня ў 16:00 – "**Аэратачкі**"

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Аэратачкі**" (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
31 мая, 1 чэрвеня – у 15:00

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
4-6 чэрвеня – у 18:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Сямейная камедыя "**Горка!**" (Расія, 2013, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
30 мая – 3 чэрвеня – у 18:00

Меладрама "**Цяпло нашых цел**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
4-6 чэрвеня – у 21:00.
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Сіністар**" (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 18 год. Паказ фільмаў гэтай катэгорыі па тэлебачанні ажыццяўляецца толькі з абмежаваннем)
30 мая, 3 чэрвеня – у 21:00
Цана білета – 35 000 рублёў
Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП

**(30 МАЯ – 5 ЧЭРВЕНЯ)**



**Авен.** Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў вас час.



**Цялец.** У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.



**Блізняты.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.



**Рак.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаныя з лішкам.



**Леў.** Энергія будзе біць ключом. Вы ў стане вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за доўгія гады, і запусціць яшчэ пару-тройку новых глабальных праектаў, калі паставіце перад сабой такую мэту.



**Дзева.** Адносіны з блізкімі ў вас складваюцца не проста. Вы, як ніколі, яўна адчуеце праблему непаразумення паміж рознымі пакаленнямі. Але вось жа дзіўна, што спрэчкі не разрозняць, а толькі ўмацуюць сям'ю.



**Шалі.** Вы не застанецеся без падтрымкі звыш, калі возьмецеся за сур'ёзнае навучанне ці пастараецеся ўладкаваць сваё ўласнае жыццё.



**Скарпіён.** Гэтыя дні, можа, і не такія ўдачныя, але ўсё ў вашых руках. І калі вам будзе здавацца, што вас ніхто не цэніць, то вазьміце сябе ў рукі і дзейнічайце.



**Стралец.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя.



**Казярог.** Перыяд будзе звязаны з вялікай колькасцю хваляванняў і клопатаў. Аднак адносіны паміж сваякамі, каханым будуць вельмі добрыя, вас будуць падтрымліваць, заспакойваць. Гэта дасць новыя сілы.



**Вадалей.** Вы будзеце абаяльнымі ўдвайне: па-першае, у сваіх уласных вачах, па-другое, у вачах навакольных, якім перадасца ваша надзвычайная ўпэўненасць у сабе. Харызма будзе дапамагаць і на рабоце, і дома, і ў зносінах з людзьмі.



**Рыбы.** Выдатны перыяд, аднолькава добры як для новых спраў, так і для завяршэння старых. Вам шанцуе ва ўсім, карыстайцеся гэтым, каб дасягнуць поспеху.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**

**Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**31 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +14 | | +12 / +17 | | +14 / +19 | | +17 / +23 | |
| | 738 | ↑ 4 | 738 | ↓ 4 | 737 | ← 5 | 741 | ← 6 |
| Вільня | +10 / +15 | | +10 / +17 | | +13 / +20 | | +15 / +23 | |
| | 747 | ↗ 5 | 748 | ↘ 2 | 746 | ← 3 | 748 | ↖ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.45
Захад 21.35
Даўжыня дня 16.50

Усход 7.20
Захад 23.25
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +16 / +23 | 746 | ← 4 |
| Гродна | +10 / +15 | 747 | ↓ 3 |
| Мінск | +12 / +17 | 738 | ↓ 4 |
| Магілёў | +12 / +23 | 744 | ← 3 |
| Брэст | +10 / +13 | 747 | ↓ 4 |
| Гомель | +16 / +23 | 748 | ↖ 3 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Познае цвіценне рабіны - да доўгай восені.
- Алена (3 чэрвеня). Дзень лёну: як пасееш яго цяпер, то вырасце доўгі.
- Тым дзень дужы, што цягне лён за вушы.

## Чытайце праз тыдзень:

**Чаму ў садавода з Маладзечна сохнуць дрэвы? Высвятляем у наступным нумары "РГ".**



### Цікавыя факты са свету музыкі

Кожны раз, перш чым сесці за стол і пачаць пісаць музыку, Бетховен апускаў галаву ў таз з ледзяной вадой.

Адна з самых папулярных вясельных мелодый – гэта "I will always love You" ( Уітні Х'юстан ) у ЗША , але па іроніі гэтая ж песня самая папулярная на пахаваннях ў Англіі.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці дастаткова школьнай адукацыі для развіцця творчых здольнасцей?

**Марта Кручонак, повар:**

– Не, школьнай адукацыі для развіцця творчай асобы недастаткова. Дзіця не навучаць у школе танцаваць. А каб зразумець, якія здольнасці ў твайго дзіцяці, трэба да яго прыглядацца: малюе – аддаваць у мастацкую школу, спявае – у музыку.

**Святлана Вусік, навучэнка:**

– Канешне, недастаткова толькі хадзіць на ўрокі. Абавязкова трэба нечым займацца. Я хадзіла ў музычную школу, пакуль не змянілі месца жыхарства і настаўніцу. Вельмі шкада.

**Наталля Калбасіч, навучэнка:**

– Да жаданняў дзіцяці трэба прыслухоўвацца. Я сама ў дзяцінстве захацела займацца музыкай. Мяркую, што ні музыка, ні танцы не могуць перашкаджаць урокам. Пры жаданні, час на любімы занятак можна знайсці заўжды.

**Валянціна Сапач, заатэхнік па пчалярстве:**

– Канешне, трэба аддаваць у дадатковыя школы. А то калі шмат вольнага часу, то і налева можна пайсці. А так заўсёды пры справе. У мяне ўжо ёсць унукі, яны, акрамя школы, і басейн наведваюць, і мастацкую школу. Не трэба толькі занадта нагружаць дзіця, бо толку таксама не будзе.

**Юры Гардзей, прадавец бытавой тэхнікі:**

– Так, канешне неабходна рознабакова развіваць дзяцей. У першую чаргу, прыслухоўвацца да іх жаданняў. Але трэба разумець, што калі сур'ёзна займацца нечым, то вучобе гэта можа перашкодзіць.

**Уладзімір Азаронак, міліцыянер-канваір:**

– Школьнай адукацыі не хапае. Маё дзіця займалася музыкай, і гэта яму толькі на карысць. І заняты ўвесь час, і больш сабраны. І памяць развіваюць заняткі музыкай. І на вуліцы дзіця не боўтаецца, і ў інтэрнэце і камп'ютарных гульнях не сядзіць. Адны плюсы ад заняткаў музыкай.

**Уладзімір Карташэвіч, кіроўца:**

– Развіваць асобу ў маленькім чалавечку трэба. Калі ў дзіцяці ёсць здольнасці да музыкі, да мастацтва, то яму трэба дапамагаць, а калі прымушаць праз сілу, то якое ж гэта творчае развіццё?

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЙДА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 22 (996) 30.05.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 464. Падпісана ў друк у 10.00 29.05.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.